B 20 149 D

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUŠČYNA" („VATERLAND")

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna" („Das Vaterland")
(8) München 19. Schliessfach 69.

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag. G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана аднаго нумару: Нямеччына** й іншыя эўрапейскія краіны — 50 фэн.; **ЗША** й **Канада** — 30 сант.; **Ангельшчына** — 1,5 шыл.; **Аўстралія** — 2 шыл. **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna",
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ERSCHEINT VIERTELJÄHRLICH DREI MAL

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND"

THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND"

№ 3 (630) — Красавік (April) 1965 — Год выданьня 19 (19. Jahrgang)

# БОЖАЙ МІЛАСЬЦЯЙ

## *Сьвяшчэнны Сабор Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы на Чужыне*

**ДА ЎСЯЧЭСНАГА ДУХАВЕНСТВА, ПРАПАДОБНАГА МАНАСТВА Й УСІХ БАГАЛЮБНЫХ ВЕРНІКАЎ НА ЧУЖЫНЕ Й НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ПРАБЫВАЮЧЫХ.**

## ВЯЛІКОДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**«Але ХРЫСТОС УВАСКРОС із мёртвых, першым сярод памерлых стаўся».**

(I Кар. 15, 20).

**УЛЮБЁНЫЯ ДЗЕЦІ НАШЫЯ!**

Зь вялікае Ласкі Госпада Міласэрнага мы зноў дачакаліся Вялікага Дня — Уваскрошаньня Хрыстовага. І Мы, як вашыя Архіпастыры, зьвяртаемся да вас, як духоўных дзяцей сваіх, з словамі міру-супако й любові, «каб радасьць вашая была поўная» (I. 10. 1, 4). Бо-ж, як усклікае сьв. Іоан Златавусны ў гэты Вялікі Дзень: ХРЫСТОС УВАСКРОС, і ўпалі дэманы! ХРЫСТОС УВАСКРОС, і радуюцца ангелы й людзі!

Так, у гэты «ўрачысты й слаўны Дзень» усё кліча нас да радасьці. Першым словам Спасіцеля нашага пасьля Ягонага Уваскошаньня было слова радасьці: РАДУЙЦЕСЯ! сказаў Ён Жонам Міраносіцам недалёка Грobу Яго (Мц. 28, 9). Ад таго часу нашая сьв. Праваслаўная Царква натхнёна прамаўляе да нас: Увайдзеце ў радасьць Госпада свайго! Запраўды, як нам не радавацца, калі ў гэты Вялікі Дзень мора дабрадзействаў Божых сплыло на нас! Як нам не весяліцца, калі ўрачыстасьць гэтая ёсьць пачаткам таго, «Чаго ня бачыла вока, і ня чула вуха, і што не ўваходзіла ў сэрца чалавека, тое Бог прыгатаваў для тых, што любяць Яго» (I Кар. 2, 9).

Бо як Хрыстос памёр у нашым людзкім целе, так і Ўваскрос у гэтым целе, але ўжо перамененым, адухоўленым. І гэта Ён у свой час зробіць з целам кожнага з нас, паводля слова сьв. Апостала Паўла: «Ён ператтворыць паніжанае цела нашае так, каб яно сталася падобным да Цела Славы Яго» (Філ. 3, 21). Падобным, гэта значыць годным быць у Сьвятле гэтае Ягонае Славы.

Таму Мы клічам вас: гляньце на Ўваскросшага Хрыста ў Славе, і — РАДУЙЦЕСЯ! Радуйцеся ўсе вы, дзеці шматпакутнага Беларускага Народу! Усе, дзе-бы вы ня былі: дома, ці ў вязьніцах, на катаргах і высылках у цемры бязбожнае няволі, ці на выгнаньнях. Усе ўзносьце вочы душаў вашых да Хрыста ў Славе, і ўсе разам натхнёна й урачыста сьпявайце: ХРЫСТОС УВАСКРОС із мёртвых, сьмерцю сьмерць паканаў і нам жыцьцё вечнае дараваў! Няхай гэты гімн Боскае й нашае перамогі лунае ўсюды, дзе толькі сэрца беларускае прабывае! Няхай гэтая песьня Ўваскрошаньня натхніць, узмоцніць, ажывіць і злучыць усіх вас у адну дружную, братнюю, Богу мілую сямейку, поўную супакою, радасьці й любові ў Духу Хрыстовым, пад кіравецтвам вялікага Дару Божага нам: нашае любае, роднае, сьвятое Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, як духовае Маці нашае!

Бо, вось, у Пятніцу й Суботу ўсе ворагі Хрыстовыя, на чале з самым шатанам радаваліся, што Праўду Божую ўжо пахавалі й запячаталі ў Гробе, а тымчасам у Нядзелю раненька ўжо Ангел абвесьціў Жонам Міраносіцам: «Што вы шукаеце жывога між памерлымі? Яго няма тут: Ён УВАСКРОС!» (Лк. 24, 5-6). Вось так Хрыстос зло, цемру, пекла-сьмерць перамог! Ніякія ворагі, навет сам шатан, не змаглі пахаваць Праўды Божае! Яна Уваскрэсла!

Таму, хоць наш любы Беларускі Народ усё яшчэ перажывае сваю галгофу й ляжыць запячатаны ў гробе пакутаў, і хоць па ўсім сьвеце цяпер шалеюць ворагі Хрыстовыя, на чале з тым самым шатанам, ня трэба ўпадаць у роспач, ці траціць надзею: Хрыстос, як Бог, вечна той самы, і тая самая Праўда Яго! Толькі цьвёрда веруйце ў Яго, і прыйдзе наш Трэйці Дзень! Праўда Хрыстовая неўзабаве затрыумфуе: праміне зло, цемра, бязбожная няволя й у нашай любай Беларусі! І наш Беларускі Народ устане з гробу свайго, уваскрэсьне да новага, вольнага й шчасьлівага жыцьця, бо й для гэтага Хрыстос памер і Ўваскрос!

Таму радуйцеся! Абыймайце й цалуйце адзін аднаго, натхнёна вітайце: ХРЫСТОС УВАСКРОС! — ЗАПРАЎДЫ ЎВАСКРОС! Часоў Божых мы ня ведаем, але ведаем тое, што Гасподзь Міласэрны ўзнагароджвае нас па ўчынках нашых. Таму, калі мы любім Бога й Спаса нашага, і свой народ, то пастараемся, каб асабліва ў гэтыя Вялікія Божыя Дні ў душах і сэрцах нашых ня было ніякае варожасьці, ці іншага зла, а толькі адно: Нябесная Любоў Хрыстовая! Тады Ласка Яго будзе з намі, і наш Беларускі Народ хутчэй затрыюмфуе.

І з гэтаю Вераю й Надзеяй натхнёна вітаем вас, усячэсныя Айцы, любыя Браты й Сёстры, і ўвесь наш Беларускі Народ зь Вялікім, Сьветлым і Радасным Сьвятам, трыюмфам Неба й зямлі, бязьмежнаю Любоўю Божай да нас: УВСКРОШАНЬНЕМ ХРЫСТОВЫМ, ВЯЛІКАДНЕМ! Радуйся Беларускі Народзе! Натхнёна сьпявай хвалу Госпаду: ЗАПРАЎДЫ ХРЫСТОС УВАСКРОС! Уваскрэсьне й нашая Праўда! Уваскрэсьне й нашая любая Бацькаўшчына Маці-Беларусь!

Ласка й Мір Госпада нашага Ісуса Хрыста, Любоў Бога й Айца, і Прычасьце Сьвятога Духа няхай будзе з усімі вамі. АМІНЬ.

ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП СЕРГІЙ
Глава Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы

ЗЬМІРЭННЫ АРХІЯПІСКАП ВАСІЛЬ
Сакратар Сьвяшчэннага Сабору Япіскапаў БАПЦ на Чужыне.

Дана Году Божага 1965
месяца красавіка.
Аўстралія — Амэрыка.

## ХРЫСТОС УВАСКРОС



**Усім нашым Суродзічам на Бацькаўшчыне й на чужыне жадаем Вясёлых Вялікодных Сьвятаў**

***ХРЫСТОС УВАСКРОС!***

# ВЯЛІКОДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

## Яго Эксцэленцыі Часлава Сіповіча Апостальскага Візытатара для Беларускаў-каталікоў

Дарагія Браты і Сёстры!

Першыя праблескі ўзыходзячага сонца ледзь разьліваліся па небасхіле. У той час група жанчын, адсьвяткаваўшы законную Пасху, сьпяшыла ў кірунку Гальгофы, дзе знаходзілася сьвежая магіла, а ў ёй Той, што меўся збавіць Ізраэль.

Гэта былі Марыя Магдалена, Марыя Якубава й Салёмэя, якія па сьмерці Хрыста плакалі над Ягоным цярпеньнем, а пасьля сьмерці асталіся Яму верныя. Цяпер, раненька на сьвітаньні, яны сьпяшаюцца з дарагімі алеямі, каб дапоўніць пахавальныя абрады — намасьціць Ягонае цела. Аднак ім не дае супакою сумлеў: хто-ж адваліць той вялізны камень, якім людзкая злоба зачыніла ўваход у гроб.

Калі аднак апынуліся ля гробу й акінулі яго неспакойным позіркам, зьдзіўленыя затрымаліся: камень, хоць і вялізны, быў адвалены і гроб адчынены. Перамагаючы трывогу, увайшлі ўнутро. Тут, пасьля некалькі хвілін, яны заўважылі праваруч юнака, адзетага ў белыя шаты, што зіхацелі блескам сонца, і пачулі ад яго:

— Ня бойцеся! Шукаеце Ісуса Назарэнскага, укрыжаванага. Ён уваскрос, няма Яго тут. Вось месца, дзе быў паложаны. Але йдзеце й скажэце вучням ягоным і Пятру, што хай йдзе перад вамі ў Галілею. Там Яго ўбачыце, як прадказаў вам (Марк 16, 5—7).

Словы анёла напоўнілі трывогай, але й радасьцяй сэрцы жанчынаў, а праз іх і перапалоханых Апосталаў.

Гэта быў пачатак новае эпохі.

Душа Хрыста зноў злучалася зь Ягоным боскім целам, якое назаўсёды сталася праслаўленым, пранікаючым усюды, далікатным, непадлеглым цярпеньням. Асталіся толькі на ім раны на доказ, што цела ўваскросшага Хрыста было тым самым, што й Хрыста ўкрыжаванага. Яны таксама сьветчылі, якою цаною Хрыстос адкупіў людзкі род.

Апостал Павал слушна мог пісаць да Рымлянаў: «Ведаючы, што Хрыстос, уваскросшы з памерлых, ужо не паміpае, сьмерць ня мае ўжо ўлады над Ім. Бо што Ён памёр, дык памёр раз дзеля грэху, а што жыве, дык жыве дзеля Бога» (Рымль. 6, 9—10). На іншым месцы той самы Апостал кліча: «Сьмерць, дзе тваё джала? Пекла, дзе твая перамога?» (I Кар. 15, 55).

Усюды на могілках мы можам прачытаць напіс: «Тут спачывае… той ці іншы». Толькі на гробе Хрыста можна было-б напісаць залатымі літарамі: «Няма Яго тут. Ён уваскрос!» (Мац. 28, 6).

Нялёгка нам людзям уцяміць веліч і розныя, здавалася-б, супрацьлежнасьці ў хрысьціянскай навуцы.

Вось што мы бачым у жыцьці самога Хрыста.

Ён вяртаў жыцьцё памерлым, а сам [illegible]я мінуў сьмерці. Ён вяртаў зрок [illegible]ым, слух глухім, мову нямым, а сам ўсё гэта страціў у хвіліну сьмерці. Ён супакойваў хвалі бушуючых водаў, загадаў засохнуць фіговаму дрэву, сьцішаў вятры, а сам не злагодзіў мора ўласных цярпеньняў, не адкінуў зьнявагі людзкіх напасьцяў. Памёр ганебна на крыжы.

Ягоныя нешматлікія прыяцелі, якія здымалі Ягонае цела з крыжа, ківалі галавой і паўтаралі ў думцы: Ці не канец усяму? А мы спадзяваліся на Яго…, але гэта відаць былі толькі мроі!

Аднак, калі ўсе людзкія спадзяваньні канчаюцца, пачынае дзеіць Бог. Так яно сталася й ля гробу Хрыста.

Труп ажыў, асоба ўваскросла, увесь космас адчуў радасьць новага жыцьця.

Падобна сталася й з навукай Хрыста.

Калі-б ейны прарок скончыў толькі на крыжы, дык нянавісьць Жыдоў, перасьледы рымскіх імпэратараў і савецкіх бязбожнікаў пахавалі-б яе навекі. Аднак навука Хрыста мае боскую жыватворчую моц у сабе, — яе ня здужала ніякая праціўная сіла. Як Хрыстос больш не паміpае, жыве вечна, так і яна, перасьледваная, крыжаваная, уваскрасае й шырыцца ў сэрцах людзей. Галілейскія рыбакі, без мяча, без гарматаў, без атомных бомбаў, заваёўваюць сьвет.

Дзе сяньня няма хрысьціянаў? I хто сяньня ня чуў нічога аб Хрысьце?

Хрыстос крыжам перамог пекла, уваскрошаньнем — сьмерць, а праз сваю навуку зьнішчыў цемру ідалапаклонства і вывеў людзей на сьветлы шлях праўды.

«Я ёсьць шлях і праўда, і жыцьцё» (Ян. 14, 6). Гэтак мог сказаць аб сабе толькі сын Божы.

А калі Хрыстос — шлях, дык трэба намісьці па ім; калі праўда — трэба нам яе пазнаць; калі жыцьцё — трэба ім жыць.

Уваскрошаньне Хрыста зьмяніла сэнс нашага жыцьця. Якое-б яно ні было: сумнае ці радаснае, у турме ці на волі, у беднаце й галечы ці ў дас-

**(Заканчэньне на 2-ой бач.)**

# Зьмены на партыйнай верхавіне ў БССР

Шматгадовы камуністычны дзеяч Беларусі Кірыла Мазураў у сакавіку сёлета пленумам ЦК КПСС быў адкліканы зь Беларусі ў Маскву на становішча першага заступніка старшыні Савету міністраў СССР. Мазураў быў пераведзены таксама з кандыдатаў ў сябры ЦК КПСС. У сувязі з гэтым у Менску адбыўся пленум ЦК КПБ, на якім Мазурава вызвалілі ад абавязкаў першага сакратара і сябры прэзыдыюму ЦК КП Беларусі.

Першым сакратаром і сябрам прэзыдыюму ЦК КП Беларусі быў назначаны Пётра Машэраў, які да гэтага часу займаў становішча другога сакратара ЦК КПБ.

Заходняя прэса адзначыла, што ў апошнія часы — гэта першы выпадак, што Беларус назначаны на высокае партыйна-дзяржаўнае становішча ў Маскве.

Мазураў нарадзіўся ў 1914 годзе ў вёсцы Рудня Прыбыткоўская Гомельскай акругі. Атрымаўшы спэцыяльнасьць дарожнага тэхніка, ён быў прызначаны загадчыкам дарожнага аддзелу ў Камарынскім раёне Гомельскай вобласьці. Ад 1936 да 1938 году адбываў ваенную службу. Пасьля займаў шэраг адказных партыйна-камсамольскіх становішчаў на Беларусі. У часе вайны быў мабілізаваны ў армію. Ад 1943-га году быў прызначаны сакратаром ЦК камсамолу ў партызанскіх аддзелах. Пасьля вайны далей працаваў на камсамольскіх становішчах у Беларусі. У 1947 годзе завочна закончыў вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. У 1950 годзе Мазураў быў абраны першым сакратаром Менскага абласнога партыйнага камітэту. Тры гады ён займаў становішча старшыні савету міністраў БССР. Апошнія дзевяць год быў першым сакратаром ЦК КП Беларусі.

Можна прыпушчаць, што высокае прызначэньне Мазурава новым партыйным кіраўніцтвам тлумачыцца ягоным актыўным удзелам у справе зьняцьця Хрушчова. Мінулая дзейнасьць Мазурава на Беларусі сьветчыць, што ён не захапляўся хрушчоўскімі экспэрымэнтамі ў сельскай гаспадарцы. Прыпушчаецца таксама, што на становішчы заступніка Касыгіна на Мазурава будзе ўскладзеная адказнасьць з асавецкую сельскую гаспадарку, найбольш адсталы сэктар савецкай эканомікі.

Некалькі біяграфічных дадзеных пра новага першага сакратара ЦК КП Беларусі — Пётры Машэрава.

Машэраў нарадзіўся ў 1918 годзе. У 1939 годзе скончыў Віцебскі пэдагагічны інстытут. У часе Другой сусьветнай вайны браў удзел у савецкай партызаншчыне на Беларусі – быў сакратаром падпольнага камсамолу. Пасьля вайны далей працаваў у камсамоле, а пасьля ачольваў абласныя партыйныя арганізацыі ў Беларусі. 10 красавіка 1959 году быў выбраны сакратаром ЦК КПБ, а 19 сьнежаня 1962 году — другім сакратаром ЦК КПБ.

Якое значэньне гэтыя зьмены могуць мець для Беларусі — цяжка нешта сказаць.

**В. Б.**

# ВЯЛІКОДНАЕ ПАСЛАНЬНЕ

**(Заканчэньне з 1-ай бач.)**

татку й багацьці, — калі мы жывём у ласцы і ў злучэньні з Богам, наш жыцьцёвы шлях вядзе да вечнай радасьці. І тады сама сьмерць становіцца пачаткам і ўваходам да новага жыцьця.

Уваскрошаньне Хрыста ёсьць тэй зоркай, поўнай надзеі, што вядзе да сталай прыстані.

На адным з памятнікаў на рымскіх могілках праходзячы можна прачытаць такія словы: «Чым вы ёсьць сяньня — мы былі, а чым мы ёсьць — вы будзеце!»

О, так! Ад сьмерці яшчэ ніхто ня ўцёк: ні кароль, ні лекар, ні багаты, ні бядняк. Калі-б аднак ня было сьветлага ўваскрошаньня Хрыста, для ўсіх нас сьмерць сталася-б страшнай трагедыяй, незразумелым зьдзекам Бога над бяссільным чалавекам. Немагчыма было-б таксама выясьніць крыжовую дарогу Хрыста й пакутны шлях чалавека. Таму й Апостал Павал пісаў да сваіх вернікаў Карынціянаў: «А калі-б Хрыстос не ўваскрос, дык і навука наша дарэмная, дарэмная й вера вашая» (І Кар. 15, 14)

Першым нашым ўваскрошаньнем ёсьць хрост, праз які мы пакідаем грэх, адракаемся ад злога духу й ягоных учынкаў. Наступным нашым уваскрошаньнем бывае кожная добрая споведзь, праз якую ачышчаемся ад грэху і ўваскрасаем да новага жыцьця — жыцьця ласкі. Трэцім, апошнім і найслаўнейшым нашым уваскрошаньнем будзе тое агульнае пры канцы сьвету, калі Сын Чалавечы зьявіцца як валадар славы, судзьдзя справядлівы. Рыхтуючыся да яго, памятайма аб тым, што вялікі Апостал народаў пісаў да Калясіянаў: «Дык, калі вы ўваскрэсьлі з Хрыстом, шукайце-ж узгорнага, дзе Хрыстос сядзіць праваруч Бога; аб узгорным думайце, а не аб зямным, бо вы памерлі (дзеля грэху) і жыцьцё вашае пахавана з Хрыстом у Богу; калі-ж зьявіцца Хрыстос — жыцьцё вашае, тады й вы зьявіцеся разам зь Ім у славе» (Каляс. 3, 1—4).

*ЧАСЛАЎ СІПОВІЧ*

*Япіскап тыт. Марыямітанскі*

*Апостальскі Візытатар*

*Беларусаў-каталікоў*

# Вайна ў Ветнаме ня спыняецца

Вайна ў Ветнаме працягваецца. Ня гледзячы на неаднаразовыя заявы прэзыдэнта Джонсана аб гатовасьці ЗША да перамоваў у ветнамскім пытаньні без якіх-небудзь папярэдніх умоваў, камуністычны бок, у прыватнасьці Паўночны Ветнам і камуністычны Кітай, ня выказалі дасюль свае згоды да перамоваў. Як умову для перамоваў, камуністы дамагаюцца спыненьня налётаў амэрыканскай і паўдзённа-ветнамскай авіяцыі на паўночна-ветнамскія ваенныя і камунікацыйныя аб'екты.

Выступаючы 27 красавіка перад прадстаўнікамі прэсы, прэзыдэнт Джонсан заявіў, што Злучаныя Штаты заангажаваныя ў Ветнаме ў канфлікце, у якім шмат пастаўлена на карту. Калі-б камуністычныя агрэсары выйгралі, сказаў прэзыдэнт, свабода й будучыня Амэрыкі апынуліся-б пад пагрозай. Уступкі агрэсарам прывялі-б да яшчэ большай пагрозы. Рашучы супраціў агрэсарам — адзіная гарантыя трывалага міру ў сьвеце.

Прэзыдэнт Джонсан падкрэсьліў, што Злучаныя Штаты робяць усё, каб унікнуць вялікай вайны. Аднак агрэсары павінны быць пазбаўлены магчымасьці забясьпячэньня ў Паўночным Ветнаме і таму налёты авіяцыі на Паўночны Ветнам будуць прадаўжацца.

Прэзыдэнт заявіў таксама, што ніхто зь ягоных дараднікаў ня ўзьнімаў пытаньня ўжыць у Ветнаме атамную зброю. Ён спаслаўся на заяву міністра абароны Макнамары, які заявіў, што атамная зброя там ня ёсьць неабходнай і не дала-б ніякай карысьці

# Спроба пераваpоту ў Баўгарыі

У другой палавіне красавіка прыйшлі весткі пра спробу дзяржаўнага пераваpоту ў Баўгарыі. Паводля паведамленьняў белградзкага карэспандэнта агенцтва «Ройтэр», у Сафіі арыштаваныя й знаходзяцца пад сьледзтвам шматлікія баўгарскія палітычныя дзеячы, абвінавачаныя ў падрыхтоўцы гэтага пераваpоту. Сярод арыштаваных знаходзяцца генэрал Трунскі, заступнік міністра абароны Баўгары, і Макальскі, заступнік міністра шляхоў зносінаў.

Раней паведамлялася аб самагубстве сябры ЦК баўгарскай кампартыі Тодарава-Гаруні і аб арышце камандуючага войскам сафійскай ваеннай акругі — генэрала Цьветко Анева.

Паводля неафіцыйных вестак замежных карэспандэнтаў у Сафіі спроба пераваpоту мела месца 6 й 7 красавіка гэтага году.

Афіцыйных паведамленьняў аб тым, зь якой мэтай асобы, што бралі ўдзел у змове, хацелі зрабіць пераварот, да гэтага часу няма. Аднак некаторыя баўгарскія крыніцы пашыралі чуткі, што тут была справа із змовай пракітайскіх элемэнтаў. Бальшыня заходніх газэтаў, наадварот, спасылаючыся на весткі сваіх карэспандэнтаў з Сафіі, уважае, што арганізатарамі змовы былі праюгаслаўскія і прарумынскія элемэнты. Газэты падкрэсьліваюць, што сярод удзельнікаў змовы ёсьць імёны старых камуністых, якія былі крытыкаваныя за схільнасьць да тытаізму і што галоўнымі арганізатарамі змовы былі прадстаўнікі ваеннага камандаваньня.

Адзначаецца, што апошнім часам камуністычныя кіраўнікі Баўгарыі былі змушаныя правесьці пэўную лібэралізацыю эканомікі і пайсьці на мерапрыемствы, якія спрычыніліся да разьвіцьця імкненьняў да большай нацыянальнай незалежнасьці. Напрыклад, французская газэта «Фігаро» пісала: «Ужо цяпер можна сказаць, што многія з удзельнікаў змовы былі ведамыя як працаўнікі сталінізму і прыхільнікі гэтак званага «нацыянальнага камунізму».

Ходзяць чуткі, што змова была выкрытая савецкай разьведкай. Гэта падкрэсьлівае антысавецкія незалежніцкія імкненьні змоўнікаў.

# Дэ Голь за палітычную незалежнасьць

27 красавіка прэзыдэнт Францыі дэ Голь выступіў праз радыё й тэлевізію. Сваё выступленьне ён прысьвяціў вонкавапалітычным праблемам. Галоўную ўвагу ён сканцэнтраваў на патрэбе незалежнасьці Францыі і ейнай палітыкі і на патрэбе нацыянальнай незалежнасьці наагул. Ён войстра выступіў супраць распадзелу сьвету на дзьве сфэры ўплыву і супраць амэрыканскай і савецкай гегемоніі ў сьвеце. Пры гэтым дэ Голь абвесьціў канчальную ліквідацыю ялтанскай эпохі, калі народы былі падпарадкаваныя дзьвюм гегемоніям, што пярэчыла прынцыпам свабоды, раўнапраўнасьці і братэрства паміж народамі. Дэ Голь дамагаецца новай раўнавагі сілаў у сьвеце, новага парадку, якога ён аднак дакладней не акрэсьліў, але які выключаў-бы ўсякае падпарадкаваньне і ўсякае ўмешваньне ўва ўнутраныя справы народаў.

Выказаўшы сваё незадаваленьне амэрыканскай палітыкай ў Ветнаме, дэ Голь аднак некалькі разоў падкрэсьліў сваю гатовасьць да цеснага саюзу із Злучанымі Штатамі. Сваю канцэпцыю палітычнай незалежнасьці дэ Голь спалучае з забавязаньнем цеснага супрацоўніцтва перш за ўсё на тэрыторыі Эўропы, якую ён пашырае «ад аднаго і аж да другога канца кантынэнту», гэта значыць улучаючы й краіны Ўсходняй Эўропы.



МАСЕЙ СЯДНЁЎ

# РАМАН КОРЗЮК

## (*Працяг*)

13.

У камэры Валя Камоцкая аналізавала свае паводзіны на допыце. Яна была незадаволеная імі. Наблытала і нагаварыла ўсялякага глупства. Спачатку нібы прызналася, а потым пачала адмаўляцца. Няма лініі, не паказала свае натуры. Вось табе і наканаванасьць долі, вось табе і місія ўся! У думках выходзіць ўсё ўзьнёсла і ўрачыста, а ў жыцьці — і цені няма ад тых думак! Ставіла за мэту — іграць нейкую ролю, і сыграла. Лепш ня трэба! Дзіцянё! Ды наверх і зьядлівае. Недаростак! Запраўды — «з лапцяў»! Чаго я выкручвалася? Тут усё-ж ясна. Самаабарона? Але самаабарона, так як я яе вяла, абніжае чалавечую годнасьць. Валя Камоцкая ведала, што не адказваць на пытаньні, якія могуць табе пашкодзіць, традыцыйна лічыцца разумным. Але-ж такая «разумнасьць» зьніжае твой вобраз, шкодзіць цэласьці і, урэшце-рэшт, ня зьменшыць тваe віны ў вачох сьледчага. У імя галоўнага ты можаш папусьціцца прыватным, але ніколі прыватнае не павінна засланяць галоўнага. А я якраз схавалася за прыватным. Мяне ня відаць было як асобы. Ня было постаці! Значыць, ня было чалавека. На самай справе, як сталася, што я дакацілася да турмы? Дзеля чаго? Дзеля Рамана? Такое ўжо я дзіцянё, што пабегла за хлопцам і ўсё? Ня шукала я нечага большага? Ня быў Раман для мяне рухам наперад, чалавекам, што не скараўся і некуды йшоў? Раман усёт-кі пайшоў, сваёй ці не сваёй, правільнай ці няправільнай дарогай, а пайшоў. А дзе-ж стаю я? На якой дарозе? Якая мая мэта? Толькі так, дзеля глупства нейкага марнавацца ў турме? Гэта было-б праступствам і дурасьцяй. А перад бацькамі — вялікім грэхам. Хіба можна так кідацца сваім жыцьцём? Як-бы ў мяне няма ніякага абавязку? Няўжо-ж я ўмею толькі дурэць? Ня скончылася мая дурасьлівасьць даўно? А дзе-ж тая сталасьць, запытацца-б у сябе? Падумаць толькі, шпіёнкай станаўлюся! Куды павярнулі! Запраўды, добрая студэнтка зь мяне! Таго глядзі, абкруцяць Шаркевічамі і Кандраценямі! Куды-ж я ўхлёпалася?

Думкі гэтыя, здавалася, Валі, былі такія громкія, што іх можна было-б навет падслухаць. На самай-жа справе, гэта былі слабыя, ціхія, ня зусім акрэсьленыя і ясныя думкі. Але яна так аддалася іхнай уладзе, уяўляла сябе такой барацьбіткай, што забылася навет, дзе знаходзіцца. Наплыў гэтых думак рабіў яе сьмелай, кемлівай, рашучай і здольнай на канкрэтнае дзеяньне. Імі яна расьпякла сябе да такой ступені, што параўноўвала сябе ўжо з рэвалюцыянэркай. Памяць яе адшукала нямала прыкладаў з прачытанага, каб падмацаваць такую аналёгію. Наагул-жа яна была падобна ў гэты час да людзей, якія, трапіўшы ў турму за палітыку, лічаць сябе змагарамі на тэй толькі падставе, што іх арыштавалі і што яны сядзяць. Валя не магла яшчэ толькі сфармуляваць ідэі, за якую яе арыштавалі і за якую яна ўжо пакутвае цяпер.

Ліхаманкавае гарэньне скончылася, і змора пачала хіліць у сон. Валя ня спала ўжо дзьве начы, арышт і допыт таксама змучылі яе. Але недзе было легчы. Ложак з матрацам быў уціснуты ў сьцяну і не адкладваўся. Валя легла на падлозе, падклаўшы пад бок свой плашчык — так ёй захацелася спаць! Турэмнік, угледзіўшы праз «ваўчок», што Валя сьпіць, адчыніў дзьверы і разбудзіў:

— Удзень нельга спаць, забараняецца! Толькі пасьля дзесятай увечары можна.

Камоцкая паднялася з падлогі, устрывожаная, спалоханая і разьбітая. Турэмная варта зьмянілася. Адчыніліся дзьверы — гэта быў часісьці ў прыбіральню. Там папалася ёй на вочы, кінутая і скамечаная палавінка беларускай газэты. Валя схавала яе пад свэтар і прынесла ў камэру. Між іншага, яна натрапіла ў ёй на артыкул «Нацдэмы — замежная агентура». Зь яго яна даведалася аб арыштах нацдэмаў у партыі, у дзяржаўных ворганах і ў грамадзкіх установах. Прозьвішчаў не падавалася. Гаварылася толькі, што нацдэмаўшчына зьвіла сабе гняздо ня толькі ў культурных установах, а што яна мела сваім намерам перакінуцца і ў армію. Валя чула пра «нацдэмаў» ня ўпяршыню, але дакладнага ўяўленьня аб іх ня мела. Сяды-тады выкладчыкі лаялі нацдэмаў нават на занятках у інстытуце, але ў чым іх галоўны грэх, дакладна не гаварылася. Як-бы там ня было, а гэтая навіна моцна яе ўзрушыла, сказаць-бы — навет абрадвала. Значыць, весялей і ёй будзе! Асабліва суцяшаў яе той факт, што артыкул не прамінуў і настаўнікаў — там былі нацдэмы таксама. Бо-ж, як ні як, і яна залічала сябе да настаўніцтва, ня гледзячы на тое, што працавала ў школе толькі адзін год.

За ўвесь дзень яна выпіла толькі кубак гарбаты. Цясьцяны хлеб ляжаў на стале някранутым. Зупы, якую давалі на абед, Камоцкая не ўзяла — не магла выцярпець смуроднай рыбы ў ёй. У камэры ня было чаго рабіць, толькі думаць. Падыйшоўшы да самай сьцяны і глядзеўшы ў высокае, маленькае вакно, адкуль да самай падлогі разорамі сьцякала вільгаць, можна было бачыць толькі кавалачак неба, дый тое было загароджана вялікім, чорным комінам, што ўзьнімаўся тут-жа адразу, ля вакна. Адзіноцтва і адчай запанавалі душой Камоцкай. Чым больш яна думала, тым цяжэй ёй было. За гэты дзень яна перадумала столькі, што страціла адчуваньне часу — ёй здавалася, што яна тут ужо цэлыя гады. Камоцкая ў думках вырашыла ня пісаць бацьком. Яна не магла навет уявіць, як можна было-б напісаць бацьком, што яна арыштованая і сядзіць у турме. Сядзець у турме хлапцу — яшчэ можна зразумець, але дзяўчыне... Камоцкая баялася, што маці такой навіны не пераж ыла-б. Думаючы, Камоцкая забывалася, пра сябе. Ходзячы па камэры, яна не ўсьведамляла сябе. Навет, калі думала пра Рамана, дык бачыла сябе разам зь ім нейкай іншай, далёкай, ідэальнай, хоць разам з тым і выразна-рэальнай. Гэтае відзеньне сябе й Рамана ў жаданапрывабнай пэрспэктыве давала Камоцкай насалоду,, падтрымку й забыцьцё. Сваё першае быцьцё з Раманам на Стаянцы Валя перажывала зноў, зь няменшай глыбінёй, жарсьцяй і самазабыцьцём. Ейная ўява малявала тую першую ноч у такіх фарбах і колерах, што яна паўставала перад ёй больш выразнай, чым сама рэальнасьць і даводзіла Камоцкую да экстазу, дасюль незнаёмага ёй. Адразу, як толькі яны апынуліся ў шалашы, Раман урачыстым тонам заявіў, што ён не адказвае за сябе і за ейную цэласьць. Тады страшныя, гэтыя словы гучаць цяпер у вушох як дзівоская музыка. Яго папярэджаньня яна баялася, хоць голас, якім гэта было сказана, быў такім пяшчотным і такім прызыўным, што баяцца, здавалася, ня было чаго. І яна захацела выпрабаваць Раманаву станоўкасьць. Садзілася яму на калені, абнімала, прытулялася. Раман вырываўся зь яе абдымкаў і казаў, калі яна ня хоча страціць дружбы, і ня быць паганкай, яна мусіць адыйсьціся ад яго, або сядзець побач і расказваць яму што-небудзь цікавае і надзвычайнае. Інакш — скончыцца прыгожая казка, засаромяцца нават зоры й патухнуць! Бо сьвецяць яны, пакуль мы сьвецімся, гараць, пакуль мы гарым. Ня тушы, Валя, зораў, бо некуды будзе йсьці ўпацёмку! Глядзі, і праз нашую страху глядзяць на нас! Яны прывялі нас сюды, хай-жа й праводзяць адсюль. Ня губі казкі! Мы мусім спраўдзіць, што мы вышэй за сябе. Чалавек заўсёды мусіць быць вышэй за сябе, інакш — ён не чалавек. Зразумей, Валя, гэта было-б так звычайна для нас зараз легчы. Не сядзець, а легчы. Такбы ўсе зрабілі на нашым месцы. А ўся прыгожасьць якраз у тым, каб ня быць такімі, як усе. Ты разумееш, Валечка? Ці будуць сьвяціць нам зоры, калі мы паднімемся? Валечка, прыдумай казку, а то й я ня ўтрымаюся! Я раззлавалася і ўпікнула Рамана, што з Раіскай ты не дэклямаваў-бы і сам прыдумаў-бы казку. Я ўцякла ад яго і стала пад сасной, каб не ляжаць. Я хачу таксама стаяць! Я гордая таксама! Не хачу абнімацца! З шалаша выхваціўся Раман і ўбачыў на маіх вейках зоры, што пераліваліся, дрыжэлі, вабілі. Я сама адчувала, што я была у той час спакусьлівай пазямному і прыгожай — панябеснаму. І Раман падыйшоў да мяне, узяў і павёў мяне на мох. І над намі сьвяціліся зоры, і мы доўга ляжалі, і мы хацелі адзін аднаго яшчэ болей. Так нарадзілася яшчэ адна казка. Гэта была наша найвялікшая казка ў сасновым бары. І мы назвалі яе сваім, нікому невядомым імём — «трошачкі». Гэтым словам мы спакушалі адзін аднаго і манілі.

**(Далей будзе)**

# Голас Беларусаў у камісіі Бікультуралізму й Білінгвізму ў Канадзе

Канада ёсьць незалежнай дзяржавай, але фармальна прызнае зьверхнасьць брытыйскай каралевы. Стан гэты быў зафіксаваны ў 1867 годзе Брытыйска-Паўночна-Амэрыканскім Актам, які роўназначны канстытуцыі. Паводля гэтага Акту, Канада была ператворана з калёніі ў незалежную палітычна і гаспадарча дамінію.

Але ад таго часу прайшло амаль сто год, на працягу якіх адбылося шмат зьмен палітычных, эканамічных, дэмаграфічных і сацыяльных.

Да Сямігодняй вайны (1657-63) Канада была францускай калёніяй, заселенай індыянамі й францускімі каляністамі, але ў часе гэтай вайны Ангельцы перамаглі французаў і пачалі засяляць гэту вялікую тэрыторыю Ангельцамі — пераважна яе цэнтральную й заходнюю частку. Такім чынам, паза тубыльцамі, насельніцтва Канады стала складацца з двух элемэнтаў — францускага й ангельскага, пры чым апошні паступова перавысіў першы як лічбай, так і значэньнем. Пераможаным Французам у правінцыі Квэбэк была пакінута рэлігійная й культурная аўтаномія, але ў палітычным і гаспадарчым жыцьці Канады перавагу меў англа-саксонскі элемэнт. Брытыйскі-Паўночна-Амэрыканскі Акт нічога не зьмяніў у гэтай справе.

З бегам часу ў Канаду пачалі наплываць эмігранты з розных краінаў Эўропы й Азіі, якія ўтварылі трэці элемэнт. Дзякуючы гэтаму, **ужо ў 1901 годзе на**сельніцтва Канады (паза тубыльцамі) выглядала так: Брытыйцаў 57%, французаў 31% і трэцяга — рознанацыянальнага элемэнту — 12%.

У далейшым трэці элемэнт стала ўзрастаў на лічбовую некарысьць Брытыйцаў. Паводля дадзеных 1961 году, на 18 мільёнаў насельніцтва Брытыйцы складалі ўжо 44%, Французы 30% і рознанацыянальны элемэнт 26%. Ня гледзячы на гэтыя зьмены ў насельніцтве, дэмінуючае значэньне Брытыйцаў ува ўсіі галінах жыцьця трывае й на далей, а францускі элемэнт застаецца ўпасьледжаным. Такі стан выклікаў незадаваленьне Французаў у найвялікшай правінцыі Квэбэку й на працягу апошніх гадоў там пачаўся сільны рух з дамаганьнямі зраўнаньня францускага элемэнту з брытыйскім ува ўсіх адносінах. Незадаваленьне ў Квэбэку пачалі выкарыстоўваць радыкальна- нацыяналістычныя дзейнікі, якія паставілі сабе за мэту аддзяленьне Квэбэку ад рэшты Канады й утварэньне з яго незалежнай дзяржавы.

Сэпаратыстычныя імкненні Квэбэку сталіся паважнай пагрозай для адзінства Канады й палітычныя канадзкія дзейнікі, ўключна з урадам, пачалі шукаць нейкага выхаду з гэтай скамплікаванай і небясьпечнай сытуацыі. Дзеля гэтага урад паклікаў да жыцьця спэцыяльную Камісію Бікультуралізму й Білінгвалізму й даручыў ёй сабраць матар'ялы ў гэтай справе.

Камісія вядзе сваю работу на ўсёй тэрыторыі Канады, езьдзячы па правінцыях і зьбіраючы матар'ялы сярод усіх этнічных групаў насельніцтва. Яна зьвярнулася спачатку да гэтых групаў, каб выказалі свае пагляды пісьмова, а пазьней, калі ў гэтых пісьмовых праектах знайшла нешта новае й цікавае, навязвала беспасярэдны кантакт з аўтарамі іх, каб супольна з імі прадыскутаваць і абмеркаваць іхныя думкі.

Ад Беларуска-Канадзкага Згуртаваньня апрацаваў праект вырашэньня справы бікультуралізму й білінгвалізму старшыня Згуртаваньня Др. Б. Рагуля. Падаём тут скарочаны зьмест гэтага дакумэнту:

Др. Рагуля даводзіць у сваёй працы, што рознамоўныя й рознакультурныя элемэнты насельніцтва Канады перасталі быць Ангельцамі, Французамі, Немцамі, Украінцамі ці Беларусамі, а паступова ўсе сталіся Канадцамі, хоць, калі ходзіць пра меншыя групы, захавалі свае мовы й звычаі ў хатнім ужытку й сваім этнічным асяродзьдзі. Сваім супольным культурным укладам усе этнічныя групы — з Ангельцамі й Французамі ўключна — стварылі новую супольную канадзкую культуру й новы канадзкі спосаб абыцьця. Ня гледзячы на іх этнічныя розьніцы, ўсе яны маюць шмат супольных тыпова канадзкіх рысаў.

Аўтар хваліць канадзкія ўлады за іх талерантнасьць і заахвочваньне розных этнічных групаў да культываваньня іхных моваў, культураў і звычаяў, бачачы ў гэтым заруку ўзбагачэньня й росквіту канадзкай культуры — супольнай для ўсяго насельніцтва.

У справе мовы Др. Рагуля стаіць на тым становішчы, што ў прыватным і групова-этнічным абыходзе маюць быць і на далей захаваны й культываваны мовы паасобных этнічных групаў, але ў афіцыйным і дзяржаўным абыходзе павінны ўжывацца толькі дзьве мовы — ангельская й француская — як мовы найвялікшых этнічных групаў, кампактна засяляючых свае тэрыторыі, як мовы закладчыкаў канадзкай дзяржавы. Пры чым у правінцыях з кампактнай бальшынёй англасаксонскай — мае быць афіцыйнай мова ангелськая, а ў Квэбэку, дзе кампактная бальшыня Французаў — мае быць афіцыйнай француская мова. Затое на агульна дзяржаўным узроўні — фэдаральным — мусіць быць камплетны білінгвалізм, павінны быць афіцыйнымі абедзьве мовы — ангельская й француская. Пры тым у фэдэральнай дзяржаўнай адміністрацыі усе ўрадаўцы з міністрамі ўключна — маюць быць двумоўнымі. Таксама вышэйшыя вайскоўцы маюць быць двумоўнымі. Што да меншых раскінутых этнічных групаў — дык яны мусяць прыстасавацца да аднэй з дзьвюх дзяржаўных моваў у залежнасьці ад свайго жыхарства. У школах, асабліва сярэдніх прапануецца ўвесьці абедзьве дзяржаўныя мовы як абавязкавыя.

Трэба адкінуць з канадзкага жыцьця ўсё тое, што прыгадвае каляніяльныя часы, кажа ў сваім праекце Др. Рагуля. Мусіць быць апрацавана новая канадзкая канстытуцыя замест абавязваючага да гэтага часу Брытыйска-Паўночна-Амэрыканскага Акту, які ўжо й застарэў, і не забясьпечвае належна правы грамадзян францускага паходжаньня.

Таксама трэба зрабіць абавязваючым канадзкі гімн «О Канада» замест брытыйскага гімну «Год сэйв дзэ квін . . .», у якім няма ані слова пра Канаду й які можа абражаць пачуцьці калісь пераможаных Французаў.

Прапануецца й новы, чыста канадзкі дзяржаўны сьцяг (гэта справа ўжо вырашана, ўжо ўведзены новы канадзкі сьцяг — чырвоны кляновы ліст на белым полі. В. Ж.).

Прапануецца ўвесьці агульную школьную сыстэму для ўсёй Канады фэдэральным урадам замест цяперашніх розных правінцыянальных і муніцыпальных школьных сыстэмаў. Гэта зблізіць усіх, як англамоўных, так францускамоўных і іншамоўных Канадцаў, узмоцніць узаемную вымену культураў, ды спрычыніцца да ўзросту агульна-канадзкай культуры й нацыянальнай сьведамасьці.

Трэба, таксама, старацца стварыць роўныя магчымасьці ў эканамічным развіцьці для ўсіх правінцыяў і ўсіх этнічныі групаў.

Калі-б усе гэтыя прапановы былі праведзены ў жыцьцё, зьніклі-б прычыны незадаваленьня Канадцаў францускага паходжаньня, кажа аўтар праекту. Яны-б пачуліся тады роўнымі ўва ўсіх адносінах і пагроза квэбэцкага сэпаратызму зьнікла-б.

Як бачым, беларускі праект цікавы сам па сабе. Ён, апрача таго, знаёміць чытача з нутранымі праблемамі Канады і з тым, як гэта дэмакратычная краіна падыходзіць да сваіх нацыянальных справаў. Праект гэты згодны з духам і агульнымі прынцыпамі папулярных цяпер «юмэн райтс» (правоў чалавека). Ён зусім адпавядае настроям Канадцаў беларускага паходжаньня — сыноў паняволенага народу.

Як-жа Камісія Бікультуралізму й Білінгвалізму аднеслася да беларускага праекту? Камісія вельмі зацікавілася ім. Не дарма-ж яна запрасіла на абмяркаваньне яго прадстаўнікоў ад Беларусаў. Вялікае зацікаўленьне нашым праектам выказала й канадзкая прэса. Шмат якія цэнтральныя антарыйскія газэты, напрыклад «Глёб энд Мэйл», «Торонто Дэйлі Стар» і «Тэлеграм» ды некаторыя правінцыянальныя, напрыклад «Бары Экзамінэр» з 31 сакавіка, пісалі аб нашым праекце, а некаторыя з іх уважалі гэты праект за найбольш арыгінальны. Сама-ж Камісія пасьвяціла нашаму праекту шмат часу.

У часе абмяркаваньня беларускага праекту Камісія зьвярнулася да аўтара яго, Др-ра Рагулі, з просьбай аб высьненьне, якімі матывамі ён кіраваўся ў паасобных пунктах. Др. Рагуля даў вычарпальныя тлумачэньні. На пытаньні-ж, хто такія Беларусы, дзе іх старая бацькаўшчына, якая іх гісторыя, як, калі й пры якіх абставінах яны пачалі іміграваць у Канаду, колькі іх ёсьць у Канадзе — даваў адказы Др. В. Жук-Грышкевіч. Шмат у якіх пытаньнях ён спасылаўся на брашуру Др-а Кэй'я «Канэдіенс оф Белорашэн Орыджын», але ў некаторых пытаньнях ён палемізаваў з гэтай брашурай — напрыклад што да колькасьці Беларусаў у Канадзе. Др. Кэй падае 30 тысяч, а Др. Жук-Грышкевіч даводзіў, што гэта лічба заменшаная, што лік Канадцаў беларускага паходжаньня — найменш 60 тысяч.

На заканчэньне Камісія дзякавала беларускім прадстаўнікам за супрацоўніцтва й сказала, што беларускі праект вельмі цікавы й што ён уключаны ў матар'ялы Камісіі.

**В. Ж.**

# Куды паплыве Беларуская нафта

Як паведамляе БЕЛТА («Советская Белоруссия», 16. 4. 1965), 14 красавіка ў Менску адбыўся сход партыйна-гаспадарчага актыву Дзяржаўнага вытворчага геалягічнага камітэту БССР, на якім разглядаліся пытаньні далейшага пашырэньня й палепшаньня пошукаў карысных выкапняў у Беларусі. З дакладам выступіў старшыня гэтага камітэту П. Леантовіч, які зазначыў, што, «ўжываючы новую тэхніку, перадавыя сучасныя мэтады геалягічных досьледаў, беларускія геалёгі знайшлі на тэрыторыі рэспублікі месцынароджаньні нафты й газу, каменнай і калійнай соляў, шкляных і фармовачных пяскоў, фасфарытаў, кааліну, тугаплаўкіх і агністойкіх глінаў, цэмэнту й шматлікіх іншых карысных выкапняў. У выніку ажыцьцяўленьня глыбіннага вывучэньня нетраў выяўлены багатыя пэрспэктывы на новыя для Беларусі віды выкапняў — жалезную руду, гаручыя сланцы, каменны вугаль, мінэральныя й тэрмальныя воды й іншыя. У раёне гораду Рэчыцы знойдзена прамысловае месцанароджаньне лёгкай маласярністай нафты. Дэталёва распрацована шахтнае поле для пабудовы чацьвёртага калійнага камбінату».

Апошнім часам на бачынах бэсэсэраўскага друку ўсё часьцей і часьцей можна сустрэцца з такімі воклікамі: «Першая вялікая беларуская нафта ёсьць!», «Шматгадовыя пошукі беларускай нафты закончыліся перамогай!», «Беларускую нафту — на службу народнай гаспадарцы!». Гэтыя воклікі ёсьць таксама й у артыкуле карэспадэнта Е. Жукоўскага «Ружы й калючкі» («Советская Белоруссия», 14. 4. 1965). Бясспрэчна, воклікі гэтыя абаснованыя, бо, як піша Е. Жукоўскі, толькі Рэчыцкае месцанароджаньне мае нафту на двух гарызонтах. «Згодна папярэдніх падлікаў, запасы гэтага месцанароджаньня вылічаюцца дзясяткамі мільлёнаў тонаў чорнага золата. А прагнозы? Яны яшчэ больш аптымістычныя й абяцаюць вялікую будучыню для разьвіцьця вытворчых сілаў рэспублікі». Тое, што Е. Жукоўскі лічыць «калючкамі», гэта — павольнае пасоўваньне працы, зьвязанае з прамысловым асваеньнем гэтае нафты й пошукамі новых месцанароджаньняў. Няма будаўнічых матар'ялаў, як помпаў і т. п. Дарэчы, усе будаўнічыя працы, зьвязаныя з прамысловым выкарыстаньнем рэчыцкае нафты, праводзіць Будаўнічая ўправа № 5 вытворчага камітэту газавай прамысловасьці СССР. Сама-ж рэчыцкая нафта ўключаецца ў ведамую магістральную сыстэму «Дружба». Такім парадкам, «першая вялікая беларуская нафта» будзе «агульнасавецкай» і пацячэ ў гэтак званыя «краіны народнай дэмакратыі». Вялікай карысьці для Беларусі яна ня прынясе, калі ня лічыць занятасьць працоўнае сілы, неабходнай для ейнага здабыцьця.

# Курортныя воды ў Беларусі

У газэце «Советская Белоруссия» з 3 сакавіка б. г. было зьмешчана наступнае паведамленьне БЕЛТА:

«Недалёка ад вёскі Збарова Рагачоўскага раёну ў маляўнічай дузе Дняпра беларускія геалёгі знайшлі новую крыніцу лекавай вады. Атрыманая з глыбіні 200-220 мэтраў, яна сваім хэмічным складам прыбліжаецца да водаў крыніцы № I курорту «Трускавец» і бабруйскага № 2. Гэтая-ж крыніца на больш нізкім гарызонце мае ваду, падобную на воды курортаў «Друзьгеньнікі», Усольле й Серагова. У недалёкай будучыні ў раёне месцанараджэньня новых мінэральных водаў вырасьце яшчэ беларуская санаторыя для лячэньня страўнікава-кішачных і нэрвова-саматычных захворваньняў . . .

Вялікія пэрспэктывы для разьвіцьця санаторна-курортнага лячэньня маюцца ў паўднёвых раёнах рэспублікі. Тут каля гарадзкога пасёлку Нараўля знойдзены вялікія запасы лекавых гарачых высокаканцэнтраваных хлёрыдна-натрыевых расолаў, абагачаных серавадародам і біялягічна актыўнымі мікраэлемэнтамі. У гэтым раёне прадугледжваецца будўніцтва санаторыі «Беларуская Мацеста».

У рэспубліцы знойдзена ўжо 12 мінэральных крыніцаў. Шэраг із іх выкарыстоўваецца для лячэбных мэтаў. На базе бабруйскай крыніцы № 2 пры санаторыі ім. Леніна адкрыты новы аддзел. Тут-жа пабудавана й хутка начне працу новая санаторыя для лячэньня водамі й гразямі.

Куротным раёнам становяцца Жданавічы, дзе знойдзены воды, якія сваім хэмічным складам падобныя да крыніцы № 2 курорту «Трускавец». Цяпер тут будуецца санаторыя . . . Будзе зарганізаванае лячэньне страўнікава-кішачных хвораў, а таксама з захворваньнямі сардэчна-сасудзістай і пэрыфэрыйнай нэрвовай сыстэмы».

# Лёс гістарычных помнікаў у БССР

У палове пазамінулага месяца савецкая прэса паведамляла, што 13-га лютага ў Маскве адбылася нязвычайная, як на савецкія ўмовы, прэсавая канфэрэнцыя. Яна была скліканая Дзяржаўным камітэтам Савету Міністраў СССР для культурных сувязяў з замежнымі краінамі і была прысьвечаная справе аховы культурных помнікаў у Савецкім Саюзе. На гэтай канфэрэнцыі замежным журналістым расказвалі пра тое, як у Савецкім Саюзе «шануюць» старажытныя і навейшыя культурныя помнікі, у тым ліку і цэрквы, ды як савецкі ўрад клапоціцца пра іхную ахову й рэстаўрацыю. Хоць на гэтай канфэрэнцыі гаварылася пераважна пра ахову й рэстаўрацыю расейскіх культурных помнікаў, аднак пад увагу браўся ўвесь Савецкі Саюз, у тым ліку і Беларусь. З гэтай нагоды варта спыніцца над тым, як выглядае справа аховы культурных помнікаў у Беларускай ССР.

Стаўленьне савецкіх уладаў да культурных помнікаў Беларусі пярэчыць усім заявам, робленым на прэсавай канфэрэнцыі ў Маскве. Беларускаму грамадзтву добра ведамы жалюгідны стан старажытных беларускіх цэркваў і сабораў. Адны зь іх ператвораны ў музэі антырэлігійнага характару, іншыя — у таварныя склады або проста занядбаныя і разбураюцца. Як паведамлялася ў бэсэсэраўскім друку, нядаўна з дынамітным выбухам зьнік адзін з найстарэйшых сабораў у Віцебску. Або возьмем Сабор Сьвятой Сафіі ў Палацку, пабудаваны яшчэ князем Усяславам Чарадзеям ў палавіне XI стагодзьдзя. Сабор гэты мае вялікую архітэктурна-мастацкую вартасьць, зьяўляецца найбольш старажытным у Беларусі. У свой час ён спаборнічаў з саборамі Сьвятой Сафіі ў Вялікім Ноўгарадзе і Кіеве ды быў сымбалем магутнасьці Полацкага княства — калыскі беларускае дзяржаўнасьці. Абрабаваны й зьняслаўлены, стаіць ён сяньня пад пагрозай поўнага разбурэньня. Як з сарказмам выказаўся адзін зь беларускіх паэтаў, пры дапамозе цяжкіх замкоў на сваіх дзьвярах ён вартуе «дзяржаўнае збожжа», гэта значыць ператвораны ў дзяржаўны склад.

Пад пагрозай разбурэньня знаходзіцца Нясьвіскі замак, развальваюцца муры Мірскага замку. Куды ні глянь, нідзе не назіраецца «ахоўнае» дзяржаўнае рукі, аб чым гаварылася на канфэрэнцыі: ні пры рэстаўрацыі старажытных культурных помнікаў Беларусі, ні пры падтрыманьні прынамся іхнага цяперашняга стану.

Зусім ясна, што канфэрэнцыя была скліканая ў першую чаргу для мэтаў палітычна-прапагандовых, а ня культурных. Найбольш увагі на канфэрэнцыі было прысьвечана асуджэньню «фашыстаўскіх барбараў», якіх абвінавачвалі ў разбурэньні гістарычна-культурных помнікаў у СССР у часе Другой сусьветнай вайны. Правільна. У часе вайны гітлераўскія акупанты разбурылі шмат культурных помнікаў на занятых імі тэрыторыях, у тым ліку і ў Беларусі. Але трэба быць справядлівым, і асуджаючы адно барбарства, нельга абараняць іншага. А аб чым сьветчаць прыгаданыя намі прыклады пра стаўленьне савецкіх уладаў да старажытных помнікаў беларускае культуры? Ці-ж гэта ня барбарства?

Так, і ў БССР ахоўваюцца і рэстаўруюцца некаторыя гістарычныя помнікі. Але якія? У Полацку, напрыклад, пад дзяржаўнай апекай знаходзіцца будынак гэтак званага «Кадэцкага корпусу», дом, у якім у 1705 годзе жыў цар Пётр I-шы. Тут-жа ахоўваецца і «вал» Івана Грознага з часоў Лівонскай вайны і часовае акупацыі Полацку расейскай арміяй. У вёсцы Лясной каля Магілева старанна даглядаецца «Помнік» і «Часоўня», пабудаваныя ў гонар бітвы 1708 году цара Пётры I-га з Швэдамі. У Ваўкавыску пад апекай дзяржавы знаходзіцца дом, у якім у 1812-ым годзе стаяў штаб царскага генэрала Баграціёна; тут-жа ёсьць і музэй Суворава. Пералік такіх помнікаў можна было-б яшчэ доўга працягваць. У БССР дзяржаўнай апекай ахопленыя ўсе помнікі, зьвязаныя з расейскай культурай або зь гісторыяй Расеі. Помнікі-ж, зьвязаныя зь беларускай культурай і гісторыяй Беларусі або зьнішчаюцца, або пакінутыя на волю лёсу, або ператвораныя ў таварныя склады. У тым-жа Полацку мы ня маем нават музэю Францішка Скарыны.

У сувязі з гэтым трэба адзначыць і такое: як падае часапіс «Маладосьць», беларускі мастак Лявон Баразна з свае ініцыятывы займаецца зборам замялёвак беларускае нацыянальнае вопраткі і арнамэнтаў. Ён сабраў ужо матарыялы для выданьня трох альбомаў. Аднак іх ня пушчаюць у друк. Гэты матарыял партыйная цэнзура ўважае відаць таксама «перажыткамі мінулага», шкодным справе гэтак званага «камуністычнага выхаваньня»? А вось расейскія культурныя здабыткі «камуністычнаму выхаваньню» зусім не перашкаджаюць. Наадварот. Беларуская грамадзкасьць нядаўна зусім справядліва абуралася тым, што, напрыклад, беларускім жанчынам прапануюць «імпартныя старажытныя расейскія боцікі», а старажытныя ўзоры беларускай нацыянальнай вопраткі, у тым ліку й абутак, амаль ня выкарыстоўваюцца ў прамысловай вытворчасьці рэспублікі і нават не знаходзяць доступу на старонкі альбомаў.

Ніхто больш ня трубіць пра раўнапраўнасьць народаў і іхных культураў як савецкая прапаганда. А на справе гэтыя дэклямацыі ня маюць нічога супольнага з рэальнымі жыцьцёвымі фактамі. Барбарская палітыка нішчэньня культурных здабыткаў нерасейскіх народаў пасьлядоўна праводзіцца бальшавіцкімі акупантамі і ў мірны час. Беларускі савецкі паэта Пімен Панчанка пісаў нядаўна ў адным з сваіх вершаў, што й цяпер «нейкі невук старажытную бубрыць царкву». Гэтыя невукі напэўна не набяруцца розуму, пакуль за іхнымі плячыма будзе стаяць шавіністычная палітыка імпэрыялістычнай Масквы. Толькі рашучая пастава ўсяго беларускага народу здольная прыпыніць гэтае барбарства.

**П. З.**

# 25 Сакавік у Мюнхэне

Беларусы Мюнхэну й ваколіцаў сабраліся 3 красавіка ў залі мюнхэнскай гасьцініцы «Гэрэсгартэн», каб адзначыць угодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР. На паседжаньні ня было адмысловых дакладаў, бо сябры мюнхэнскай беларускай калёніі, занятыя штодзённа навукова-дасьледніцкай, журналістычнай і падобнай працай, аднолькава добра паінфармаваныя ў гістарычных і актуальных пытаньнях, зьвязаных з тэмай беларускай дзяржаўнай незалежнасьці.

Паседжаньне адкрыў сп. С. Кабыш, выказаўшы коратка свае аптымістычныя пагляды на справу разьвіцьця ідэі незалежнасьці Беларусі цяпер і ў будучыні.

Пралат У. Салавей пачаў сваё выступленьне кароткай малітвай за беларускі народ, а пасьля паінфармаваў пра ўдалае адзначэньне Дня Беларускай незалежнасьці Беларусамі ў Лёндане, адкуль ён толькі што вярнуўся.

Была праслуханая беларуская праграма Радыя «Свабода», перададзеная на Бацькаўшчыну з нагоды 47-ых угодкаў Акту 25 Сакавіка, а таксама запіс новых песьняў у выкананьні беларускіх хораў у Амэрыцы.

Гэта было дапоўнена абменам думак і вестак пра палажэньне на Бацькаўшчыне.

# *У Манчэстэры*

Угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі былі тут адзначаныя 28 сакавіка.

Перад абедам у казацкай праваслаўнай капліцы сьвятар БАПЦ а. Я. Абабурка адправіў Багаслужбу і адмысловы малебен за беларускі народ.

Урачыстая Акадэмія адбылася ў мясцовым Беларускім Доме. У залі Дому, адпаведна прыбранай для ўрачыстасьці, сабраліся Баларусы Манчэстэру й госьці. Адкрыў урачыстасьць Старшыня мясцовага аддзелу ЗБВБ, сп. М. Яськевіч. Быў праслуханы рэфэрат, падрыхтаваны сп. Я. Калбасой. Урачыстасьць закончылася адсьпяваньнем беларускага нацынальнага гімну.

Удзельнікі сходу засталіся на скромнае прыняцьце.

Арганізатарам урачыстасьці і брадфардзкім сябром, якія ім дапамагалі, належыцца вялікая падзяка. Пажадана, каб і ў наступныя гады адзначэньне ўгодкаў Незалежнасьці не адбывалася без урачыстай Акадэміі.

**М. Стаўпіскі**

# *У Бірмінгаме*

Група Беларусаў у Бірмінгаме 47-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці БНР адзначыла адзінаццатага красавіка. З гэтай нагоды нас адведаў беларускі сьвятар з Манчэстэру, які адправіў Багаслужбу і ў сваім казаньні спыніўся на важнасьці Сакавіковага Акту.

**Прысутны**

# Рэха сьвяткаваньня ўгодкаў Акту 25 Сакавіка

## У Парыжы

Сёлета ў Парыжы традыцыйнае сьвята Беларускай Незалежнасьці было наладжанае 28-га сакавіка. Сьвяткаваньне пачалося ўрачыстай Багаслужбай у капліцы сьв. Людовіка, якую адправіў а. Леў Гарошка. Сьпяваў хор брацускіх студэнтаў пад кіраўніцтвам ведамага ўжо нам сп. Дэ Ляпрадэля. Кульмінацыйным мамэнтам Багаслужбы было адсьпяваньне Херувімскай Песьні, скампанаванай кампазытарам Куліковічам, які за аснову кампазыцыі ўзяў беларускі напеў з XVI-XVII стагодзьдзяў, знойдзены сп. Дэ Ляпрадэлям.

Трэба адзначыць адносна вялікі ўдзел чужынцаў у Багаслужбе.

Пасьля абеду, дадзенага а. Гарошкам для ўдзельнікаў хору, а гадзіне 16 пачалася ўрачыстая Акадэмія ў Прыгожай Салі «дэ Шартр». Тут сабралася таксама шмат прадстаўнікоў іншых нацыянальнасьцяў: Французаў, Харватаў, Грузінаў, Украінцаў, Ангельцаў... Асабліва шматліка былі прадстаўленыя Украінцы з шэрагаў былых камбатантаў, а таксама Харваты ад Харвацкай Сэкцыі Хрысьціянскіх Работнікаў.

Пасьля прывітальных выступленьняў гасьцей, старшыня прэзыдыюму ўрачыстага паседжаньня сп. Міхась Наўмовіч перадаў слова Прэзыдэнту Рады БНР Міколу Абрамчыку, які ў зьмястоўным і глыбокім аналізе жывучасьці й вечнасьці беларускага нацыянальнага руху даказаў, што ўсякія марксыстаўскія касмапалітычныя этыкеты, за якія хаваецца бальшавізм — гэта відавочны хвальш. У запраўднасьці за імі хаваецца звычайны расейскі імпэрыялізм. Як прыклад, дакладчык падаў факт, што Масква імкнецца даказаць усім нацыям неабходнасьць адрачэньня ад сваё мовы й свае нацыянальнай культуры на карысьць камунізму, але ня вымагае гэтага-ж ад расейскага народу. Гэтая нацыя, прыбраўшы сабе тытул «старэйшага брата». імкнецца накінуць сваю мову й культуру ня толькі народам савецкай імпэрыі, але й краінам-сатэлітам і, урэшце, усяму сьвету. Але шматлікія факты даказваюць крах гэтых намаганьняў. Яны разьбіваюцца аб станоўчы супраціў гэтай палітыцы з боку інтэлігенцыі і ўсёй грамадзкасьці паняволеных народаў. Прэзыдэнт падкрэсьліў значэньне эміграцыі ў гэтым змаганьні, а таксама высілкі Масквы зьнішчыць гэтую эміграцыю ці то заклікаючы яе да павароту, ці пробуючы скампраматаваць яе рознымі абвінавачаньнямі й паклёпамі. Але факт, што Масква прысьвячае столькі грошы й часу на змаганьне супраць палітычнай эміграцыі, сьветчыць аб ейным вялікім значэньні.

Даклад спаткаўся з глыбокім прызнаньнем і быў праведзены доўгімі воплескамі.

Пасьля заканчэньня афіцыйнай часткі, пачаўся пачастунак «Зуброўкай». Бальшыня гасьцей доўга заставалася ў залі. Людзі знаёміліся бліжэй, узаемна «адкрывалі свае сэрцы», узгаднялі свае пагляды. Стварыліся групы вакол Харватаў' Украінцаў... А калі бальшыня гасьцей разышлася, у групе Беларусаў і Грузінаў рэй павёў наш мастак Віктар Жаўнярові́ч, які прасьпяваў некалькі песьняў і ўрыўкаў з опэраў на беларускай і іншых мовах.

**Уладзімер Суліч**

## У Лёндане

**(Ад нашага лёнданскага карэспандэнта)**

Угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі адзначаліся ў Лёндане гэтым разам больш урачысла, чымся ў мінулыя гады.

У чацьвер 25-га сакавіка вечарам спадарыня Макмілян — жонка папярэдняга прэм'ера Вялікабрытаніі — наладзіла прыняцьце ў гонар 47-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі. Сярод гасьцей былі прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу (амбасадары Нямецкай Фэдэратыўнай Рэспублікі й Гішпаніі, прадстаўнікі францускай амбасады і іншыя), прадстаўнікі ангельскай арыстакратыі (Лёрд Дэфэран і Ава, Лёрд Освальд, Барон Бістам, Ледзі Гарлех і іншыя), сябры парляманту ад урадавай і апазыцыйнай партыяў і іншыя выдатныя прадстаўнікі ангельскага грамадзтва. Сярод прысутных Беларусаў былі Дастойны Ўладыка Чеслаў Сіповіч, Мітрафорны Пратаерэй Ул. Салавей, Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Вялікабрытаніі сп. Ул. Бутрымовіч з жонкай і іншыя.

На наступны дзень ангельская газэта «Таймс» зьмясьціла вестку пра прыняцьце.

У нядзелю 28-га сакавіка раніцай у беларускай царкве сьв. Пётры й Паўла Ўладыка Часлаў Сіповіч, у саслужэньні з Мітр. Прат. Ул. Салаўём і а. А. Надсонам, адслужыў урачыстую сьв. Літургію за Беларусь. Тэмай казаньня паслужылі словы Хрыста: «Аддайце цэзарава цэзару і Божае Богу.» Навязваючы да іх, Дастойны Ўладыка прадставіў нашае імкненьне да нацыянальнай незалежнасьці як імкненьне да зьдзейсьненьня прыродных правоў, якія маюць свой пачатак у Богу.

Папаўдні гэтага самага дня адбылася ўрачыстая Акадэмія ў Беларускім Доме. З зьмястоўным дакладам выступіў Старшыня ЗБВБ, сп. Ул. Бутрымовіч. Дакладчык, падаючы шматлікія канкрэтныя факты, зрабіў агляд шматвяковай дзяржаўнай традыцыі беларускага народу. Ён таксама параўнаў працэс тварэньня беларускай дзяржаўнасьці з падобным працэсам сярод іншых народаў.

Мастацкая частка складалася з канцэрту, наладжанага вучнямі школы сьв. Кірылы. У праграме былі выступы хору, аркестры, ансамблю жалеек і дэклямацыі. Кіраваў хорам а. Р. Тумашанскі.

На заканчэньне было скромнае прыняцьце, наладжанае адміністрацыяй Дому.

## У Брадфардзе

**Угодкі 25-га Сакавіка ў Брадфардзе**

У Брадфардзе сьвяткаваньне ўгодкаў Беларускай Незалежнасьці адбылося ў сыботу 27-га сакавіка. Сьвяткаваньне было папярэджанае старанной падрыхтоўкай.

Пачалося з малебену ў капліцы Беларускага Грамадзкага Дому. Малебен адслужыў сьвятар БАПЦ, а. Я. Абабурка.

Пасьля Багаслужбы залю Беларускага дому напоўніла беларуская грамадзкасьць з Брадфарду, Лідс і ваколіцаў. Пачалася ўрачыстая Акадэмія. Адкрыў яе кароткай прамовай старшыня Ўправы Аддзелу Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі сп. Янка Калбаса. Прамоўца заклікаў мясцовае беларускае грамадзтва да большай актыўнасьці на карысьць вызваленьня нашага народу.

Рэфэрат, мастацка апрацаваны й прачытаны інжынерам Бэнэдыктам Кляйновам, пакінуў моцнае ўражаньне, усхваляваў некаторых да сьлёзаў.

Сяброўкі Беларускага Юнацкага клюбу пры брадфардзкім аддзеле ЗБВБ выступілі ў народных строях зь песьнямі й народнымі танцамі. Яны зрабілі нават вялікае ўражаньне на мясцовую ангельскую прэсу, якая зьмясьціла іхны здымак, падаючы нагоду, зь якой яны выступалі.

Пасьля ўрачыстасьці, ейныя ўдзельнікі засталіся ў залі, каб у сяброўскай атмасфэры правесьці яшчэ пару гадзінаў. Буфэт з напіткамі й закускай падкрэсьліваў традыцыйную беларускую гасьціннасьць.

Управа Аддзелу ЗБВБ ў Брадфардзе складае найшчырэйшую падзяку ўсім беларускім арганізацыям і ўстановам, якія з нагоды нацыянальнага сьвята прыслалі Аддзелу свае прывітаньні.

**Я. Крушына**

## У Нью Ёрку

Сьвяткаваньне 47-ых угодкаў Акту 25-га Сакавіка Галоўная Ўправа БАЗА разам з адделамі Нью Ёрк і Нью Джэрзі ладзіла ў нядзелю 21 сакавіка.

Сьвяткаваньне пачалося Божай Службай у Беларускім Катэдральным Саборы ў Нью Ёрку, куды прыехалі аўтабусам і Беларусы зь Нью Брансўік'у.

Акадэмія ў Білтымор гатэлі пачалася а 3-яй гадзіне папаўдні. Яе адкрыў Старшыня Галоўнае Управы БАЗА др. Ст. Станкевіч вельмі зьмястоўным аглядам тых падзеяў, што прывялі да Акту абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі 25-га сакавіка 1918 г. Вельмі добра апрацаваны рэфэрат на тэму дня прачытаў паангельску інжынер Русак Васіль. Агулам сьвяткаваньне прайшло надзвычай удала, за што трэба пахваліць арганізатараў. Звычайна ў нас бывае, што ў першай частцы слухаем рэфэрат, чытаюцца прывітаньні, госьці ды іншыя запрошаныя прадстаўнікі выступаюць з прамовамі. Таму гэтыя прамовы часта робяцца нуднымі. Сёлета ў Білтымор гатэлі ў Нью Ёрку арганізатары сьвяткаваньня так улажылі праграму ўрачыстасьці, што прамовы, рэфэрат, прывітаньні й чытаньне праклямацыяў губэрнатараў зь Нью Ёрку, Нью Джэрзі й Пэнсыльвэніі й мэраў гарадоў Нью Ёрк і Нью Брансўік перапляталіся народнымі танцамі, што выконваў танцавальны гурток Беларускае Моладзі пад кіраўніцтвам Алы Орса-Романо, дэклямацыямі дзяцей з сыботніх школаў Нью Ёрку й Нью Брансўік'у, а таксама салёвымі выступленьнямі спадарыняў Маркоўскай і Гіл-Ярашэвіч, пад акампаніямэнт праф. Зубковіч. Гэтая праграма, як той вянок, была разнастайнаю й адначасна тварыла адно цэлае, а галоўнае — была цікаваю й лёгка ўспрыймалася публікаю.

На Акадэміі з прамоваю выступаў кангрэсмэн Крэпс, які, між іншага, сказаў, што нават у такой дэмакратычнай краіне як Злучаныя Штаты Амэрыкі, работніцкі рух таксама як і арганізацыя ў прафэсыянальныя саюзы пачаліся фактычна ў 1930 годзе. Работнікам у Амэрыцы ніхто не забараняў арганізавацца, але таксама й ніхто не запісаў у амэрыканскую Канстытуцыю, што работнікі могуць тварыць свае арганізацыі. Прадстаўнікі-ж Беларускага Народу, казаў кангрэсмэн, яшчэ ў 1918 годзе запісалі ў сваю Канстытуцыю «свабоду сумленьня, свабоду слова й прэсы, свабоду арганізацыі прафэсыянальных саюзаў, свабоду забастовак...» — Вось дзе вашая сіла, сіла свабоды, якую ня зьнішчыць Масква, — сказаў кангрэсмэн Крэпс.

З прамовамі й прывітаньнямі выступілі прадстаўнікі нашых суседзяў: Палякаў і Украінцаў, і ад нашых сяброўсымпатыкаў: Грузінаў, Казакоў, Туркестанцаў. Афіцыяльная частка сьвяткаваньня закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», пасьля чаго ўдзельнікі ўрачыстасьці перайшлі ў суседнюю залю на «коктэйл», дзе з шклянкаю ў руцэ можна было абыйсьці знаёмых, пазнаёміцца зь іншымі й нагаварыцца ўдоваль. А пасьля такога сьвяткаваньня гаварыць было аб чым...

**М. Хацяновіч**

## У Нью Джэрзі

Беларусы штату Нью Джэрзі, што групуюцца ў арганізацыі БАЗА, 47-ыя ўгодкі Акту 25-га Сакавіка адсьвяткавалі ў нядзелю 28-га сакавіка ў будынку грамадзкага цэнтру ў Гайлэнд Парку. Пасьля Божае Службы ў БАПЦаркве, Беларусы Нью Брансўік'у й ваколіцаў сабраліся ў залі свойго будынку, каб адзначыць-адсьвяткаваць угодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Урачыстую Акадэмію адкрыў сп. Гутырчык — Старшыня Аддзелу БАЗА ў Нью Джэрзі, а рэфэрат прачытаў др. Ул. Бакуновіч, у якім даў агляд заняпаду й адраджэньня нашай дзяржавы. З прывітальнымі прамовамі выступілі інж. Яраслаў Букачэўскі ад Украінскага Кангрэсавага Камітэту й сп. Шукелайць ад БАЗА ў Нью Ёрку. У другую частку сьвяткаваньня ўвайшло праслухоўваньне праграмаў радыя «Свабода», што перадаваліся на Бацькаўшчыну з нагоды 47-ых угодкаў Абвешчаньня Беларусі Вольнай і Сувэрэннай Дзяржавы. Адсьпяваньнем Беларускага Нацыянальнага Гімну закончылася ўрачыстая частка акадэміі.

Пасьля афіцыяльнае часткі адбыўся банкет, што быў вельмі добра зарганізаваны Жаночым Згуртаваньнем пры Аддзеле БАЗА ў Нью Джэрзі. Шкада толькі, што многія пасьля споведзі паехалі адразу-ж дахаты. Маглі не аставацца на банкет, але на Акадэміі астацца было пажадана, ды й ня толькі пажадана. Тымбольш, што а. Сьцяпан быў, і ня толькі на Акадэміі.

**Ул. Сьцяблевіч**

## У Чыкага

У гэтым годзе, як і ў мінулыя гады, Беларусы ў Чыкага загадзя рыхтаваліся да ўрачыстага адзначэньня нашага найвялікшага нацыянальнага сьвята — угодкаў 25-га Сакавіка. Яшчэ за месяц да ўгодкаў адбыўся сход Згуртаваньня Беларусаў Штату Ілінойс, на якім прысутнічалі таксама прадстаўнікі Саюзу Беларускай Моладзі. На сходзе была выпрацаваная праграма сьвяткаваньня, якая, пазьней, была дакладна выкананая.

Дзеля таго, што 25-га сакавіка прыпадала ў чацьвер, было пастаноўлена наладзіць сьвяткаваньне ў нядзелю 28-га сакавіка.

Быў высланы ліст да губэрнатара штату Ілінойс з просьбай абвесьціць дзень 25-га сакавіка Беларускім нацыянальным сьвятам, а маёра места Чыкага наведала адмысловая беларуская дэлегацыя ў гэтай справе.

У чацьвер 25-га сакавіка сп. Н. Жызьнеўскі ад Саюзу Моладзі выступіў праз чыкагскае радыё з інфармацыяй пра Дзень Беларускай незалежнасьці і паведаміў аб праграме ўрачыстасьцяў. У нядзелю 28-га сакавіка на гэтую-ж тэму выступіў праз радыё др. А. Занкавіч.

Праграма ўрачыстасьцяў пачалася Багаслужбай, адпраўленай а. Янкам Тарасэвічам. Пасьля прынагоднага казаньня, айцы Янка і Уладзімер Тарасэвічы адслужылі адмысловы малебен за беларускі народ.

Папаўдні ў залі Беларускага Дому Старшыня Згуртаваньня Беларусаў Штату Ілінойс абвесьціў адкрыцьцё ўрачыстай Акадэміі, прывітаў прысутных айцоў і ўсіх Беларусаў. Сп-ня Н. Градэ прасьпявала амэрыканскі гімн пад акампаніямэнт кампазытара Міколы Куліковіча. Пасьля а. Янка Тарасэвіч прачытаў свой верш, прысьвечаны Дню Незалежнасьці. Сп-ня Вера Рамук прачытала праклямацыі губэрнатара штату Ілінойс і маёра места Чыкага, якімі дзень 25-га сакавіка быў абвешчаны беларускім нацыянальным сьвятам. Наступна былі прачытаныя прывітаньні ад розных беларускіх арганізацыяў.

Рэфэрат на тэму «Сіла ідэі 25-га Сакавіка» прачытаў магістар В. Пануцэвіч. Рэфэрат быў цікавы й карысны, дакладчык гаварыў выразна й рэчова, але магчыма крыху задоўга.

Пасьля Рэфэрату ўзяў голас госьць др. А. Вярбіцкі, які паінфармаваў аб працы іншыі беларускіх арганізацыяў і аб прыхільным стаўленьні да беларускіх нацыянальных праблемаў амэрыканскіх палітычных дзейнікаў.

Урачыстая частка Акадэміі закончылася супольным адсьпяваньнем Беларускага нацыянальнага гімну.

У мастацкай частцы была паказаная інсцэнізацыя вершу Янкі Купалы «Сын і маці» ў выкананьні дзяцей. Дзеці дэклямавалі таксама вершы іншых беларускіх паэтаў і выканалі танец «Кадрыль». На заканчэньне пад акампаніямэнт прафэсара Міколы Куліковіча сьпявачка Надзя Градэ выканала шэраг беларускіх песьняў.

Бадай што ўсе ўдзельнікі ўрачыстацьці засталіся на супольны абед. Многія склалі ахвяры ў «Фонд БНР».

Пажадана, каб рэфэрат сп. В. Пануцэвіча быў апублікаваны ў беларускай прэсе.

**Я. Чарнэцкі**

## У Таронта

47-мыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі сьвяткавала ЗБК ў Таронто 4-га красавіка ў Беларускім Рэлігійна-грамадзкім Цэнтры.

А 11-ай гадзіне раніцы а. пратаерэй М. Мацукевіч адслужыў урачыстую багаслужбу ў БАПЦаркве Кірылы Тураўскага й сказаў прынагоднае казаньне. Ён зьвярнуў увагу на вельмі многазначны факт, на тое, што абвешчаньне незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году супадала з важным рэлігійным сьвятам — Дабравешчаньнем. Так як Дабравешчаньне запавядала новую эру ў рэлігійным жыцьці — так Акт 25 Сакавіка вызначаў новую эпоху ў гісторыі Беларусі.

Урачыстая акадэмія адбылася папаўдні. На пачатак быў адыграны канадзкі гімн, пасьля якога маленькая Галя Барановіч адмовіла беларускую малітву «Магутны Божа». Акадэмію адчыніў прывітаньнем з нацыянальным сьвятам старшыня Тарантонскага аддзелу ЗБК спадар М. Ганько й перадаў слова для дакладу аб 25-ым Сакавіку д-ру В. Жук-Грынкевічу. Вось скарочаны зьмест дакладу:

Дакладчык прачытаў словыт з Акту 25-га Сакавіка й Другой Устаўной Граматы й зьвярнуў увагу на тыя вялікія вольнасьці, якія гарантавалі беларускаму народу гэтыя векапомныя дакумэнты.

У далейшым ён затрымаўся на параўнаньні паміж БНР і БССР. Беларуская Народная Рэспубліка паўстала з волі беларускага народу выказанай на Першым Усебеларускім Кангрэсе, у якім брала ўдзел 1871 дэлегатаў, а БССР зьявілася як прыгнятальнік гэтай волі беларускага народу. БССР абвяшчалася 2 разы, і то кожны раз у іншых граніцах, ня з волі народу, а з пастановы некалькі дзесяткаў камуністаў — на загад з Масквы. Лёс беларускага народу й ягоная тэрыторыя сталіся, такім чынам, каньюнтуральнымі прыкладамі для палітыкі чырвонае Масквы. 1-га студзеня 1919 году ў Смаленску была абвешчана «незалежная» БССР амаль у поўных этнаграфічных граніцах пастановай камуністычнай канфэрэнцыі Паўночна-Заходняй вобласьці ў складзе 56 дэлегатаў з рашаючым голасам і 25 — з дарадчым. Гэта «незалежная» БССР была зараз-жа палучана з Савецкай Літвой, творачы г. зв. Літбел у фэдэрацыі з РСФСР. Але ў наступным годзе гэта смаленскае абвешчаньне БССР сталася ўжо неактуальным і 31-га ліпеня 1920 году было зроблена новае абвешчаньне БССР у Менску — гэтым разам у складзе толькі 6-ці паветаў былой Менскай губэрні. Аднак, пад націскам незадаволенага беларускага насельніцтва, у 1924 годзе Масква згадзілася далучыць да тых шасьці паветаў Меншчыны Магілёўшчыну й некалькі паветаў Віцебшчыны, а ў 1926 годзе Гомельшчыну. Усё-ж рэшта тэрыторыі Ўсходняй Беларусі — амаль такая-ж як уся пашыраная БССР — была пакінута пры РСФСР і знаходзіцца ў яе межах па сёньнешні дзень.

У 1921 годзе Рыскім мірам Масква аддала Заходнюю Беларусь Польшчы. Пазьней — у 1939 годзе — з далучанай да БССР Заходняй Беларусі адступіла Літве Вільню й Віленшчыну, пакідаючы гэту тэрыторыю пры Савецкай Літве ўжо пры канцы 2-гой Сусьветнай вайны. Тады-ж была аддадзена Польшчы Беласточчына з Беластокам.

Усё гэта гандляваньне тэрыторыяй Беларусі адбывалася ня толькі бяз ніякай згоды ці хоць-бы веды Беларусаў, але яно адбывалася нават бяз удзелу прадстаўнікоў БССР. Дык вось як выглядае ў рэчаіснасьці г. зв. незалежнасьць, сувэрэннасьць і непадзельнасьць БССР. Сапраўную незалежнасьць і сувэрэннасьць Беларусь можа мець толькі ў Беларускай Народнай Рэспубліцы, абвешчанай Актам 25-га Сакавіка — з волі беларускага народу.

Мастацкая частка складалася з наступных нумароў: Др. Раіса Жук-Грышкевіч прадэклямавала верш Янкі Купалы «На суд». Тады сцэну заняла дарастаючая моладзь. Т. Мышкоўская й І. Харэвіч прасьпявалі «О Беларусь мая шыпшына» й «Васількі». Музычны нумар на піяніне выканала дзяўчынка Богдан. Традыцыйную Лявоніху пад кіраўніцтвам спадара Б. Кіркі выканалі І. Харэвіч, Т. Мышкоўская, К. Целеш, Я. Харэвіч, Р. Целеш і А. Тарасэвіч. Ігралі ім спадары Б. Лішчонак, Г. Мацко і Лагода. З дарослых далучыліся да канцэрту спадары М. Ганько й Б. Лішчонак з дуэтам на мандалінах. На заканчэньне быў адсьпяваны Беларускі нацыянальны гімн.

З задаваленьнем трэба адзначыць, што на сьвяткаваньні дыло шмат прысутных ня толькі з Таронта, але й з Ошавы — ды й значная частка праграмы была выканана ашаўцамі.

**В. Ж.**

☆

Беларускае Нацыянальнае Аб'еднаньне ў Канадзе 47-ыя ўгодкі Сакавіковага Акту адзначыла 28 сакавіка адумысловым малебенам ува ўласнай царкве імя сьв. Эўфрасіньні Полацкай у Таронта. Айцец прат. В. Сагайдакіўскі ў сваёй працяглай пропаведзі падрабязна спыніўся на значэньні гэтай вялікай гістарычнай падзеі для беларускага народу. Казаньне ўсіх вельмі расчуліла. Царква была ўдэкараваная беларускім і канадыйскім сьцягамі.

Пасьля малебену частка парафіян паехалі ў суседнюю Ашаву на Акадэмію, якую ладзіла Беларуская Самапомач Ашавы.

**А. —віч**

---

**На сустрэчы зь міністрам**

Інфармацыйная служба «Канадыйская Сцэна» 26-га сакавіка ладзіла прыняцьце для этнічнай прэсы, на якім з дакладам выступіў канадыйскі міністар вонкавых справаў Пол Мартын. Ён гаварыў пра сучаснае палажэньне ў Паўдзённа-Ўсходняй Азіі і аб стаўленьні Канады да падзеяў у гэтым раёне.

Прадстаўнікі газэты «Беларус» — сп. сп. К. Акула й А. Маркевіч — мелі нагоду бліжэй пазнаёміцца з канадзкім палітыкам і перадаць яму інфармацыйныя матарыялы аб палажэньні на Беларусі.

**А. —віч**

---

**НІВОДНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ, ТАВАРЫСКАЯ Й СЯМЕЙНАЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦЬ НЕ ПАВІННА АДБЫЦЦА БЯЗ ЗБОРУ СЯРОД ПРЫСУТНЫХ АХВЯРАЎ НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»!**

---


### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk**, 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia**, 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz**, 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan**, 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity**, 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk**, Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis**, 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich**, 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. W. Duniec**, 3444 Marvin Ave., Cleveland 9, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula**, 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon, Paris 9.**
**Mr. W. Kasztelan**, 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларуская газэта палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**